# Голас Радзімы

№ 13 (2155)
29 сакавіка 1990 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.

ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ

Шырока і гучна адзначаецца сёлета ў Беларусі 150-годдзе з дня нараджэння Ф. Багушэвіча — слыннага беларускага паэта, які прыйшоў у літаратуру на той трагічнай мяжы нашай гісторыі, за якой мог пачацца незваротны працэс этнічнага самараспаду народа. Паэт прадракаў адраджэнне гістарычнай свядомасці народа і быў ледзь ці не адзіным пісьменнікам мінулага стагоддзя, які ўсведамляў пераемнасць гістарычных і культурных каштоўнасцей свайго краю.

НА ЗДЫМКУ: партрэт паэта Францішка БАГУШЭВІЧА работы мастака М. КУПАВЫ.

(Матэрыялы, прысвечаныя юбілею Ф. Багушэвіча, змешчаны на 6—7-й старонках).

Ф. БАГУШЭВІЧ

## МАЯ ДУДКА

Эх, скручу я дудку!
Такое зайграю,
Што ўсім будзе чутка
Ад краю да краю!
Ой! то будзе гранне,
Як на павітанне
І як на вяселле,
Нядоўга тыкеле:[1]
Скора скончу песні...
Покі дудка трэсне,
Ці паглохнуць людзі,
Ці высахнуць грудзі,
Сілы надарвуцца
На радаснай дудцы,
І выцякуць слёзы,
На сухія лозы...
Выйдзе душа парай,
Падымецца хмарай,
Туманам па рэчцы,
Расой разліецца,
Каласочкі зросе,
Каб жыта ўдалося.
А хлеб з'ядуць людзі,
І зноў сляза будзе.
Ну, дык грай-жа, дудка,
Каб-жа была чутка,
Каб аж вушы драла;
Каб ты так іграла,
Каб зямля скакала!
Зайграй так вясёла,
Каб усе у кола,
Узяўшыся ў бокі,
Ды пайшлі у скокі,
Як віхор у полі—
Аж выючы з болю;
Каб аж рагаталі,
А усё скакалі...
Каб скакалі горы,
Як хваля на моры,
Як паны на балі,—
Каб вот як скакалі!

. . . . . . . . . .

Га! Чаму-ж не граеш!
Хіба ты не знаеш,
Не ведаеш хіба,
Што, як тая рыба
Ды на лёдзе б'ецца,
Так вот я, здаецца,
Сорак гадоў б'юся,
Ніяк не звярнуся,
Ніяк не натраплю
Вадзіцы хоць каплю,
Ды такой вадзіцы,
Ды з такой крыніцы,
Што, як хто нап'ецца,
Дык вольным стаецца.
Грай, вясёла-ж грай,
Або долю дай!..

. . . . . . . . . . . .

Енчыш безумолку!
Не, не будзе толку!
Кіну-ж дудку тую,
А зраблю другую.
Цяпер зраблю дудку
Ад жалю, ад смутку.
Га! Зраблю-ж другую,
Жалейку смутную,—
Ды каб так заграла,
Каб зямля стагнала,
От каб як заграла:
Каб слязьмі прабрала,
Каб аж было жудка,
От то мая дудка!..
Вот зрабіў такую!
Дай-жа папрабую...
Ну, дык грай-жа, грай-жа,
Усё ўспамінай-жа...
Што дзень і што ночы
Плач, як мае вочы,
Над народу доляй,
І плач што раз болей.
Плач так даастатка,
Галасі, як матка,
Хаваючы дзеці,—
Дзень, другі і трэці
Іграй слёзным тонам
Над народу сконам!
Каб ты так іграла,
Каб немарасць брала.
Як слязы не стане,
Заціхне іграние,—
Кінь наўкола вокам,
Дык крывавым сокам—
Не слязой—заплачаш,
Як усё абачыш.
Як крыві не стане,
Тагды кончу гранне!

---

[1] У даным выпадку ў сэнсе —«тольні».

РАШЭННЕ МІНГАРВЫКАНКОМА

## У ПРАВЯДЗЕННІ МІТЫНГУ АДМОВІЦЬ

**У беларускім рэспубліканскім друку 22 сакавіка было апублікавана рашэнне Мінскага гарвыканкома, якое датычыцца Акта 25 сакавіка 1918 года. У ім гаворыцца, што ў выканком Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў з заявай аб правядзенні 25 сакавіка 1990 года святкавання «дня незалежнасці Беларусі, прысвечанага 72-й гадавіне абвяшчэння БНР», звярнуліся грамадзяне З. Пазняк, Ю. Хадыка і А. Марачкін. У правядзенні мітынгу на плошчы імя Леніна і мастацкіх выступленняў, масавых шэсцяў па вуліцах горада З. Пазняку, Ю. Хадыку і А. Марачкіну адмоўлена. Згодна з заключэннем Акадэміі навук БССР, кампетэнтных вучоных, Міністэрства юстыцыі БССР, якое таксама апублікавана, дата 25 сакавіка 1918 года не можа расцэньвацца як дзень нацыянальнай незалежнасці беларускага народа. Абвешчаная ў гэты дзень ва ўмовах нямецкай акупацыі БНР ніколі не з'яўлялася дзяржаўным утварэннем. Нягледзячы на неаднаразовыя звароты Рады БНР да буржуазных краін з просьбай дыпламатычнага прызнання рэспублікі, ні адна з іх на гэту просьбу не адклікнулася.**

**Пасля заканчэння грамадзянскай вайны, апынуўшыся ў эміграцыі, на нарадзе ў Берліне дзеячы Рады БНР прынялі рэзалюцыю аб прызнанні БССР адзіным цэнтрам нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння Беларусі і заявілі аб роспуску сваіх палітычных цэнтраў. Сапраўдным днём нараджэння беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці з'яўляецца 1 студзеня 1919 года.**

**Апублікаваны таксама ў прэсе дакументы і каментарыі вучоных да ўзнікнення БНР.**

ПА РЭСПУБЛІКАНСКАМУ ГАДЗІННІКУ

## ПЕРАВОДЗІЦЬ СТРЭЛКІ НЕ БУДЗЕМ

**Тыя, хто будаваў Днепрагэс, помняць, што ў 1930 годзе, калі Савецкая краіна асабліва мела патрэбу ў электраэнергіі, было вырашана больш поўна скарыстоўваць светлавы час дня і перавесці стрэлкі гадзіннікаў на гадзіну наперад. Так мы і жылі ўсе 60 гадоў, прыспешваючы час. Захад жа ўводзіў толькі летні час, даказаўшы, што 40-45 мінут бадзёрай раніцы арганізм не абцяжарваюць і гаспадарцы не пашкодзяць. Мы ж, капіруючы, у 1981 годзе выдалі зноў указ — падкруцілі стрэлкі яшчэ на гадзіну наперад, і забілі трывогу педыятры і неўрапатолагі: адаптацыі да новага ч... не назіралася. Непакоіліся за свой статак да... сонца не села, а кароў даводзіцца гнаць з поля ... надоі падаюць. Трывожыліся настаўнікі: першыя ўрокі — а звычайна гэта сур'ёзныя навукі — праходзяць упустую, паколькі дзеці сонныя. Скардзіліся вадзіцелі: заступаючы на першую змену, ім даводзілася па прыдуманаму часу ўставаць на досвітку. Нарэшце, пайшлі званкі ад энергетыкаў: эканоміі няма, а перарасход паліва назіраецца.**

**І вось прынята новае рашэнне: 25 сакавіка, ...лі многія рэгіёны краіны перайшлі на летні час, у Беларусі стрэлкі гадзінікаў не пераводзілі.**

**Рашэнне прынята ў адказ на зварот урада рэспублікі ўвесці ў Беларусі ў выглядзе эксперымента новы парадак адлічэння часу: мінус адна гадзіна ў параўнанні з маскоўскім.**

РАСПРАЦОЎКІ

## ПЕКЦІН СУПРАЦЬ СТРОНЦЫЮ

**Здольнасць пекціну — расліннага хімічнага злучэння — «звязваць» радыенукліды і выводзіць іх з арганізма чалавека вядомая. Але вось дзе яго ўзяць? Вырашыць гэтую праблему ўдалося вучоным Магілёўскага тэхналагічнага інстытута. Пад кіраўніцтвам загадчыцы кафедры тэхналогіі і арганізацыі грамадскага харчавання доктара тэхнічных навук З. Васіленкі распрацавана тэхналогія атрымання пекцінавай пасты з яблычнай масы, што застаецца пасля таго, як адціснуты сок.**

**Гэтая тэхналогія была апрабіравана на кансервавых заводах. Выпрабаванні паказалі, што ў атрыманым сухім парашку пекціну ўтрымліваецца даволі многа — дзевятнаццаць працэнтаў. Яго высока ацанілі кандытары, скарыстаўшы для прыгатавання жэлейных і фруктовых мармеладаў. Але самая галоўная каштоўнасць пекцінавай пасты ў тым, што яна здольна выводзіць з арганізма чалавека свінец, ртуць, стронцый, цэзій і іншыя элементы.**

УНІКАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

## ДЗЯДУЛІНА ЛЮТНЯ

**Унікальная калекцыя народных музычных інструментаў прадстаўлена на выстаўцы, што адкрылася на ВДНГ БССР. Яна сабрана навуковым супрацоўнікам дзяржаўнага гісторыка-культурнага запаведніка «Заслаўе» У. Берберавым.**

**Старанна прадуманая кампазіцыя дазваляе не проста пазнаёміцца з творамі народных умельцаў, але і прасачыць за геаграфіяй іх распаўсюджання, даведацца пра музычныя схільнасці жыхароў розных мясцовасцей Беларусі. Ёсць у калекцыі інструменты з цікавым лёсам. Напрыклад, лютні, знойдзенай на Гродзеншчыне, не менш чым 150 гадоў. Адрэстаўрыраваная ўмелымі рукамі майстра, яна і сёння поўная чароўных гукаў.**

**Усё, што прадстаўлена на выстаўцы, Уладзімір Бербераў сабраў у паездках па беларускіх вёсках прыкладна за год. Многіх з тых, хто рабіў гэтыя выдатныя інструменты, даўно няма. Старыя майстры паміраюць, і разам з імі знікае іх рамяство. Хочацца верыць, што знойдуцца энтузіясты, якія падхопяць эстафету, гатовую вось-вось спыніцца, не дадуць знікнуць крыніцам народнай творчасці. У Заслаўі плануецца стварыць майстэрні, дзе будуць узнаўляцца забытыя народныя рамёствы.**

МІЖНАРОДНЫЯ ВЫСТАЎКІ



**Больш за 70 савецкіх і замежных фірм прадставілі ўзоры сумесей і сплаваў, якія маюць унікальныя ўласцівасці, лабараторныя прыборы і інструменты, тэхналагічнае абсталяванне на міжнародную выстаўку «Кампазіт-90», што адкрылася ў Мінску.**

**Адрас экспазіцыі выбраны не выпадкова. На нашу рэспубліку даводзіцца пятая частка выпускаемага ў краіне аб'ёму сінтэтычных валокнаў, больш за 12 працэнтаў пластмас. Даволі шырокая і сфера прымянення ствараемых у нас матэрыялаў.**

**Мэта выстаўкі — дапамагчы заключыць кантракты, ствараць сумесныя прадпрыемствы, садзейнічаць больш глыбокаму развіццю навуковай і вытворчай кааперацыі.**

**НА ЗДЫМКУ: у выставачным комплексе Гандлёва-прамысловай палаты БССР, дзе праходзіць «Кампазіт-90».**

ЭКАЛОГІЯ

## ПРАЖЫВЁМ БЕЗ «ПІРАВАЙ» АБАРОНЫ?

**Экалагізацыя абароны раслін — гэты ...ы тэрмін цалкам адлюстроўвае сутнасць дыскусіі, што разгарнулася на ўсесаюзным семінары «Актуальныя праблемы прыкладной энтамалогіі», які прайшоў у Валожынскім раёне. Разуменне таго, што, ахоўваючы ўраджай з дапамогай ядахімікатаў, мы наносім прыродзе шкоду, прывяло вучоных да неабходнасці ўзяцца за распрацоўку ...а-гічна чыстых метадаў барацьбы са шкоднік... і пустазеллем.**

**Пра апошнія даследаванні ў гэтай галіне расказалі арганізатары семінара — вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута аховы раслін, а таксама біёлагі з Масквы, Ленінграда, Кіева, Гомеля, Самарканда, Ашхабада і іншых гарадоў краіны. Спецыялісты падзяліліся сакрэтамі развядзення карысных насякомых, якія скарыстоўваюцца ў барацьбе за ўраджай, расказалі пра даследаванні ў галіне сінтэзу пахучых злучэнняў, што імітуюць сігнальныя пахі шкоднікаў. Скарыстоўваючы рэчывы, якія з'яўляюцца бяспечнымі для наваколля, можна на нейкі час парушыць прыродныя біялагічныя цыклы пэўнага віду насякомых і тым самым рэзка скараціць іх колькасць на полі. На семінары называліся прыклады паспяховага прымянення навінкі ў практыцы сельскай гаспадаркі.**

АМЕРЫКАНСКІЯ ЖУРАВІНЫ



**Сабраць у сакавіку жменю-другую буйных, сакавітых, добра выспеўшых ягад кожнаму было б прыемна. Гэта амерыканскія буйнаплодныя журавіны. Эксперыменты па іх вырошчванню ў рэспубліцы праводзіць Беларускі навукова-даследчы інстытут лясной гаспадаркі. Пастаўленыя яго супрацоўнікамі доследы на поўдні Беларусі прайшлі паспяхова. Прыжыліся амерыканскія журавіны і ў Віцебскай вобласці. Тут, у Плiскім доследным лясгасе Глыбоцкага раёна, закладзены ўчастак з трох палёў. Расліны добра акліматызаваліся і далі плады. Яны выдатна перазімавалі.**

**НА ЗДЫМКУ: ягады велічынёй амаль з вішню выраслі на доследным участку Плiскага лясгаса.**

ПАДВЕДЗЕНЫ ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ

## *КОЛЬКІ НАС І ЯКІЯ МЫ?*

Дзяржкамстатам БССР на падставе аўтаматызаванай апрацоўкі перапісных лістоў атрыманы канчатковыя вынікі аб колькасці, узроставым складзе насельніцтва, знаходжанні ў шлюбе, колькасці і памеры сямей, узроўні адукацыі, нацыянальнасці і мовах, крыніцах сродкаў існавання.

І вось атрымана галоўная лічба: на 12 студзеня 1989 года ў рэспубліцы пражывала 10 мільёнаў 200 тысяч чалавек. У параўнанні з 1979 годам колькасць насельніцтва павялічылася на 7 працэнтаў. Больш за іншых з'явілася новых мінчан: за дзесяць гадоў іх стала на 26 працэнтаў больш — сёння ўжо 1 мільён 607 тысяч чалавек. Калі паглядзець даныя па абласцях, то найбольшы рост насельніцтва ў Брэсцкай, а найменшы — Віцебскай і Мінскай. Галоўным фактарам росту насельніцтва абласцей у асноўным з'яўляецца натуральны прырост.

Калі паглядзець на суадносіны гараджан і вяскоўцаў, то, як і можна было чакаць, колькасць першых павялічваецца (з 55 працэнтаў у 1979 годзе да 65 працэнтаў у 1989-м), а другіх — памяншаецца. І ўсё з-за таго, што і па сёння бяжыць вясковая моладзь у горад, бяжыць ад бытавой неўладкаванасці, не па сучаснаму цяжкай сялянскай працы, нават ад нейкай псіхалагічнай ушчэрбнасці вяскоўца, якога тады-сяды яшчэ могуць абразіць грубым словам накшталт «деревня» ці «колхозник». Здаецца, самыя звычайныя словы, а наша грамадства здолела зрабіць з іх лаянку. Ці зменіцца нешта тут? Цяжка адказаць. Але ёсць надзея, што зараз, калі прыняты законы аб зямлі і ўласнасці, «колхозник» нарэшце зробіцца гаспадаром, а гаспадар спакон веку статус паважаны.

У цяперашняй узроставай структуры (якая таксама прыводзіцца) насельніцтва Беларусі адбіваюцца мінулыя тэндэнцыі, асабліва ў нараджальнасці. Моцны ўплыў, як вядома, зрабіла на яе другая сусветная вайна, якая не толькі забрала мільёны жыццяў, але і прывяла да зніжэння колькасці нараджэнняў. Так было і ў гады вайны, і пазней, калі сталі абзаводзіцца дзецьмі жанчыны, народжаныя ў 1941—1945 гадах, а таксама пакаленне іх дачок.

Мяркуючы па даных перапісу, можна казаць пра пэўнае старэнне нацыі. Колькасць людзей старэйшых за працаздольны ўзрост павялічылася на 24 працэнты, у той час як усё насельніцтва — на 7 працэнтаў.

І па-ранейшаму мужчын менш, чым жанчын: адпаведна 47 і 53 працэнты. Хаця ўвогуле адзначаецца паляпшэнне палавой структуры насельніцтва. Павелічэнне колькасці жанчын пачынаецца недзе з 35-гадовага ўзросту і выклікана больш высокай смяротнасцю мужчын.

Сямейных пар, як паказаў перапіс, — 2,6 мільёна. Мяркуючы па лічбах, да 29 гадоў жэняцца 76 працэнтаў юнакоў і выходзяць замуж 82 працэнты дзяўчат. Цікава, што для мужчын своеасаблівы пік «сямейнасці» прыпадае на 50—59 гадоў: менавіта ў гэтым узросце 90,1 працэнта з іх маюць жонак. А вось для жанчын аналагічны максімум прыпадае на 30—39 гадоў, калі маюць мужоў 84,3 працэнта жанчын шлюбнага ўзросту. Сярэдні ж памер сям'і ў Беларусі сёння 3,2 чалавека супраць 3,3 у 1979 годзе. Адбыліся змяненні ў структуры сем'яў па колькасці членаў: павялічылася колькасць сем'яў з чатырох і двух чалавек.

За 1979—1988 гады прыкметна павысіўся ўзровень адукацыі людзей, у некаторай ступені палепшылася «адукацыйная» сітуацыя на вёсцы: раней было 82,5 працэнта гараджан з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй, а сялян толькі 44,2 працэнта, зараз адпаведна ў горадзе — 89,1 працэнта, а ў вёсцы — 55,8 працэнта. І асабліва вылучаецца наша сталіца — Мінск. Калі ў адносінах агульнай сярэдняй адукацыі асаблівага перападу ў розных рэгіёнах рэспублікі няма, то вось па колькасці людзей з вышэйшай адукацыяй на 1 000 чалавек Мінск вырываецца далёка наперад. Зразумела, дзіўнага тут нічога няма: Мінск — інтэлектуальны цэнтр Беларусі.

У ходзе перапісу атрыманы звесткі пра нацыянальны склад насельніцтва рэспублікі. Нацыянальнасць вызначалася апытанымі на аснове іх самасвядомасці. Нацыянальнасць дзяцей вызначалася бацькамі. Такім чынам, на Беларусі жыве 7 мільёнаў 568 тысяч беларусаў, 1 мільён 134 тысячы рускіх, 403 тысячы палякаў, 231 тысяча ўкраінцаў, 135 тысяч яўрэяў.

Пры перапісе разам з нацыянальнасцю ўлічвалася родная мова і другая мова народаў СССР, якой свабодна валодаюць апытваемыя. Атрыманыя даныя сведчаць, што 77,7 працэнта насельніцтва рэспублікі лічаць роднай мову сваёй нацыянальнасці (сярод беларусаў — 80,2 працэнта) і 22,3 працэнта — мовы іншых народаў.

Рускую мову назвалі ў якасці роднай 3 мільёны 244 тысячы чалавек (у 1979 — 2 мільёны 688 тысяч чалавек), з іх 1 мільён 311 тысяч рускіх і 1 мільён 933 тысячы чалавек іншых нацыянальнасцей. Акрамя таго, 5 мільёнаў 156 тысяч чалавек указалі рускую мову ў якасці другой мовы, якой яны свабодна валодаюць.

У час перапісу вызначаліся і сродкі існавання людзей. Высветлілася, што ў народнай гаспадарцы працуе 52,2 працэнта насельніцтва.

Вось такія вынікі перапісу, што адбыўся летась у студзені.

## У РЭСПУБЛІЦЫ

### НАРАСТАЕ НАЦІСК «ЗЯЛЁНЫХ»

# ЭКАЛАГІСТЫ НАСТРОЕНЫ РАШУЧА

Экалагічную сітуацыю ў рэспубліцы мясцовыя вучоныя ацэньваюць як крытычную. Выкарыстанне недасканалых тэхналогій, гігантаманія, звышканцэнтрацыя прамысловасці—за гэтыя і іншыя памылкі мінулых дзесяцігоддзяў жыхарам многіх беларускіх гарадоў даводзіцца расплачвацца сёння ўласным здароўем. Становішча ў рэспубліцы яшчэ больш пагоршылася пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС. У забруджаных раёнах пражывае два мільёны чалавек, гэта значыць пятая частка насельніцтва рэспублікі. Экалагічныя праблемы хвалююць сёння не толькі інтэлектуалаў, як гэта было трычатыры гады назад.

### ШТО АДБЫЛОСЯ Ў НАВАПОЛАЦКУ!

Паўтара года назад тут пракацілася першая хваля шматтысячных мітынгаў. Жыхары горада выйшлі на вуліцы з патрабаваннямі засцерагчы ад небяспекі іх жыццё, спыніць нарошчванне магутнасцей на шкодных прадпрыемствах, зачыніць найбольш небяспечныя вытворчасці. Трывога жыхароў не была беспадстаўнай. Адзін прыклад: па статыстыцы Міністэрства аховы здароўя СССР, у 95-тысячным горадзе, дзе размешчаны буйныя прадпрыемствы хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці, рэзка ўзрасла колькасць ракавых захворванняў—за шэсць гадоў у пяць разоў.

У выніку грамадскага націску ва ўрадавых кабінетах упершыню сур'ёзна заняліся праблемай Наваполацка. Было спынена расшырэнне дзеючых вытворчасцей. Прадпрыемствам прадпісана ў кароткія тэрміны правесці замену старога абсталявання, укараніць новыя тэхналогіі, каб знізіць канцэнтрацыю шкодных рэчываў у паветры да ўзроўню санітарных норм. Буйныя сродкі выдзелены на будаўніцтва газаправода. Гэта дазволіць перавесці гарадскую цеплаэлектрацэнтраль і печы нафтаперапрацоўчага завода з мазуту на прыродны газ, што рэзка зменшыць сярністыя выкіды ў атмасферу. Пачата будаўніцтва артэзіянскага водазабора, паколькі якасць пітной вады, што паступае ў горад з адкрытых крыніц, крайне нездавальняючая. Па патрабаванню насельніцтва ў Наваполацку створана экалагічная лабараторыя, якая кругласутачна кантралюе стан навакольнага асяроддзя.

Рашэнні гэтыя задаволілі грамадскасць. «Пытанне толькі ў тым, ці будуць яны рэалізаваны ў тыя тэрміны, якія запісаны на паперы»,— гаворыць адзін з лідэраў гарадскога экалагічнага аб'яднання 53-гадовы электрамеханік Генадзь Маісееў.

### ЯШЧЭ АДНА ПЕРАМОГА

Экалагічныя аб'яднанні і групы існуюць сёння практычна па ўсёй рэспубліцы. Некалькі месяцаў назад яны аб'ядналіся ў Беларускі экалагічны саюз са штаб-кватэрай у Мінску. Рух «зялёных» уяўляе сабой шматлікую і арганізаваную сілу, настроеную, дарэчы, вельмі рашуча. Улады імкнуцца пазбягаць канфрантацыі, але часта, асабліва, калі гутарка ідзе аб размяшчэнні новых прадпрыемстваў, экалагічная бяспека якіх выклікае ў людзей сур'ёзныя сумненні, канфліктныя сітуацыі ўзнікаюць зноў.

Вось адзін з прыкладаў. У горадзе Драгічыне Брэсцкай вобласці пачалі будаваць завод па вытворчасці кармавых антыбіётыкаў. Падобных прадпрыемстваў у СССР ужо каля дзесятка (два з іх у Беларусі), і ўсе яны карыстаюцца дрэннай экалагічнай рэпутацыяй. Калі жыхары Драгічына даведаліся пра тое, які менавіта камбінат стане іх суседам, то ціхі правінцыяльны гарадок імгненна ператварыўся ў растрывожаны вулей. Зацікаўленыя ведамствы паспрабавалі даказаць, што завод не прынясе гораду ніякай шкоды. Але трывожным публікацыям у прэсе людзі верылі больш, чым аптымістычным запэўніванням чыноўнікаў. Будаўніцтва давялося спыніць і шукаць ужо ўзведзеным да таго часу карпусам новае прымяненне. Як было вырашана потым, тут сумесна з заходнегерманскай фірмай будзе пабудавана прадпрыемства па вытворчасці лекавых прэпаратаў і аднаразовых шпрыцаў.

### ЦІ МОЖНА АБЫСЦІСЯ БЕЗ «ЗЯЛЁНЫХ»!

— «Зялёныя» занадта катэгарычныя,—лічыць Святлана Руднева, якая ўзначальвае экалагічны аддзел у Савеце М[illegible]раў БССР.—Яны не хо[illegible] рэальна глядзець на рэчы. Немагчыма ж сёння ўзяць і закрыць усе экалагічна небяспечныя прадпрыемствы.

Экалагічныя праблемы, якія назапашваліся дзесяцігоддзямі, у адзін момант не в[illegible]шыць. Урад рэспублікі рас[illegible]цаваў комплексную праграму па аздараўленню навакольнага асяроддзя і апублікаваў яе ў прэсе для абмеркавання. Але праграма чамусьці не выклікала ў грамадскасці асаблівай радасці. Хаця прапануецца, на мой погляд, сапраўды рэальны шлях выхаду з экалагічнага тупіка. Вельмі важна, у прыватнасці, што ўжо ў 1990 годзе ўводзіцца ў дзеянне эканамічны механізм, пры якім прадпрыемствам стане крайне нявыгадна забруджваць навакольнае асяроддзе. За любыя звышнарматыўныя выкіды шкодных рэчываў прыйдзецца плаціць, і нямала. У некаторых заводаў на гэта будзе ісці да 70 працэнтаў прыбытку. Акрамя таго, праз год прадпрыемствы будуць абавязаны расплачвацца і за выкарыстанне прыродных рэсурсаў—вады, зямлі і г.д. Як бачыце, і без «зялёных» многае робіцца спецыялістамі.

Чаму ж грамадскасць з недаверам ставіцца да ўрадавых праектаў?

«Я не бачу, што чыноўнікі сапраўды ўсвядомілі жыццёвую неабходнасць рашучых мер па выратаванню прыроды,—гаворыць прафесар Анатоль Кудзельскі з Беларускай акадэміі навук.—Напрыклад, адной рукой яны падпісваюць пастанову аб статусе прыроднага заказніка для бліжэйшых і далёкіх прыгарадаў сталіцы, а другой—даюць «дабро» на ўзвядзенне ў гэтай жа зоне буйнейшага ў Еўропе кар'ера па здабычы будаўнічых матэрыялаў. Ці можна ім давяраць пасля гэтага?» І такіх супярэчнасцей у дзеяннях афіцыйных органаў нямала. Экалагісты лічаць, што толькі націск з боку грамадскасці можа прымусіць урад «пазелянець».

**Ігар ГЕРМЯНЧУК.**



## ПАЛІКЛІНІКА Ў САСНОВЫМ ЛЕСЕ



Пашыраецца сетка медыцынскіх устаноў у беларускай глыбінцы. Новая раённая паліклініка адкрылася ў Браславе. Яна разлічана на 500 наведванняў у змену. У сасновым лесе ўзняўся сучасны трохпавярховы будынак, дзе нядрэнна абсталяваны дзіцячая і жаночая кансультацыі, стаматалагічнае і зубапратэзнае аддзяленні, працэдурныя кабінеты. Хворым аказваюць дапамогу кваліфікаваныя спецыялісты.

НА ЗДЫМКАХ: медсястра Алена ДЗЬЯКАВА рыхтуе да работы абсталяванне ў фізіятэрапеўтычным кабінеце; прыём вядзе ўрач-педыятр Алена КАВАЛЕЎСКАЯ.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

### НА СУСВЕТНЫМ УЗРОЎ[illegible]

# БЕЛАРУСКІ ЛАЗЕР—ЗА МЯЖУ

Інстытут фізікі АН БССР нядаўна паставіў за мяжу, у ГДР, партыю з трыццаці найноўшых лазераў «Аметыст» з размеркавальнай зваротнай сувяззю на суму 603 тысячы валютных рублёў. Гэта не першая ўдалая здзелка беларускіх фізікаў. Іх прыборы таксама высока ацэньваюць спецыялісты Венгрыі і Балгарыі.

Пракаменціраваць падзею мы папрасілі аднаго з «архітэктараў» лазернай тэхнікі, кандыдата фізіка-матэматычных навук, старшага навуковага супрацоўніка Інстытута фізікі АН БССР Т. ЭФЕНДЗІЕВА.

**— Тарлан Шаідавіч, нямецкія даследчыкі — сусветна прызнаныя лідэры ў галіне стварэння аптычных квантавых генератараў. Як атрымалася, што ваш інстытут камплектуе і іх суперсучаснай лазернай апаратурай?**

— Справа ў тым, што на Захадзе і ў нашай краіне прамысловага выпуску падобных прыбораў няма. Наш інстытут ідзе на сусветным узроўні, калі не апярэджвае яго. І гэта не пустая пахвальба.

Вось я родам з Азербайджана. Прыехаў у Мінск і стаў аспірантам у Акадэміі навук каля дваццаці гадоў назад. І ўжо тады тут была прызнаная школа фізікаў-лазершчыкаў. Група даследчыкаў была адзначана Дзяржаўнай прэміяй СССР. Поспехі былі такія, што мог пазайздросціць і прызнаны заходні цэнтр. Мяркуйце самі. Паралельна з амерыканскімі і італьянскімі лазершчыкамі маладыя беларускія фізікі Рубінаў і Мастоўнікаў атрымалі эфект стабільнай генерацыі ў растворах фарбавальнікаў. У перакладзе на звычайную м[illegible] гэта азначае, што быў сканструяваны поўнасцю кіруемы прамень лазера. Прамень стала магчымым перабудоўваць па даўжыні хвалі, магутнасці і г. д. Гіпербалоід, дзякуючы адкрыццю маіх настаўнікаў, ужо не нагадваў піяніна з шасцю-, васьмю клавішамі замест поўнага набору гукаў. З'явілася магчымасць выконваць на ім любую поліфанічную музыку.

**— Але ж цяпер лазерамі на фарбавальніках нікога не здзівіш. Імі і метал свідруюць, і людзей лечаць, і навуковыя доследы ставяць.**

— Правільна. Гэтыя прыборы, як найбольш эфектыўныя і кампактныя, прыжыліся ў многіх сферах чалавечай дзейнасці. Але ж і мы ў сваіх даследаваннях не стаялі на месцы. Лазеры на арганічных фарбавальніках дапамаглі стварыць такі моцны навуковы задзел, які і цяпер выводзіць, прабачце за нясціпласць, на навуковы Алімп.

Спачатку ў тэорыі, а потым і на практыцы абверглі класічны пастулат, што ў лазерах немагчыма абысціся без дарагой аптычнай сістэмы. Мы не толькі даказалі новы пастулат, але і ўвасобілі сваю навуковую ідэю ў прыборах, якія ахвотна пачалі набываць нямецкія вучоныя, даследчыкі, урачы. Яны проста заўважылі: іншых лазераў, каб і ўзбудзіць нейкае рэчыва, і адначасова маніпуліраваць промнем, як хочаш, не існуе.

**— Цікава, Тарлан Шаідавіч, а дзе ж выкарыстоўваюцца вашы апараты?**

— Яны могуць выкарыстоўвацца практычна ў любой сферы чалавечай дзейнасці. Я, напрыклад, нават сам лячуся промнем. Пасвеціш ім, скажам, на актыўную кропку на целе—і адразу ж у сырую зіму знікае катар альбо перастае балець горла. Праўда, самалячэннем захапляцца не трэба, гэта ўсё ж справа ўрачоў. Але зразумела, што нашы лазеры можна шырока выкарыстоўваць для прафілактыкі і лячэння розных захворванняў. У адрозненне ад звычайнага серыйнага тэхналагічнага прыбора, ён можа быць нібыта хірургічны скальпель у руках хірурга. З яго дапамогай можна пранікнуць у любы біялагічны працэс, заўважыць узнікненне асобных малекул, клетак у жывых раслінах. Працягласць жа выпрамяньвання можна скараціць да мільярдных долей секунды і за гэты суперкароткі час як бы «сфатаграфаваць» тое, што робіцца ўнутры жывой клеткі. Такім чынам даследуюцца звышхуткія працэсы, вызначаюцца малекулярныя паломкі і г .д. Ужо сёння ад такога лазера ёсць каласальны практычны выйгрыш—ствараюцца новыя сарты сельскагаспадарчых раслін, расшыфроўваюцца паводзіны генаў. Цяпер з нямецкімі калегамі мы працуем над лазерамі, якія будуць выпраменьваць імпульс у дзесяць разоў карацейшы, чым стомільярдная доля секунды.

**— Ну, а як выкарыстоўваюцца гэтыя прыборы ў нас дома?**

— Попыт на іх вялікі. Таму цяпер выдаём рэкамендацыі, каб выпускаць іх буйнымі партыямі на нашых заводах. Але для гэтага патрэбны не проста адзін лазер, а цэлы комплекс абсталявання. І вось тут неацэнную дапамогу нам аказалі нашы сябры-фізікі з ГДР і Венгрыі.

**Інтэрв'ю правёў Аляксандр ШАГУН.**

## 45-ГОДДЗЕ ПЕРАМОГІ

**Генеральскі мундзір Р. Арыка надзявае цяпер не часта, але штогод 9 мая і 3 ліпеня ён пры поўным парадзе, за руку з праўнукам Дзімам крочыць па Ленінскім праспекце да помніка-абеліска на плошчы Перамогі ў Мінску. Рыгор Іванавіч прымаў непасрэдны ўдзел у вызваленні Беларусі і яе сталіцы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені-ліпені 1944 года. І да абеліска ён прыходзіць з букетам чырвоных гваздзікоў, каб ушанаваць памяць загінуўшых таварышаў па зброі.**

**...Сталіца Беларусі дачакалася вызвалення. А палкоўніку Р. Арыку і яго падначаленым яшчэ трэба было фарсіраваць Нёман, весці цяжкія баі ў Паўднёвай Прусіі, браць Кёнігсберг.**

**Ужо ў пераможным 45-м Рыгор Іванавіч атрымаў назначэнне ў штаб Беларускай ваеннай акругі. Скончыўшы акадэмію Генштаба, пяць гадоў быў начальнікам штаба Групы Савецкіх войск у Германіі, зноў вярнуўся ў Мінск, потым доўгія гады працаваў начальнікам штаба Беларускай ваеннай акругі. Горад, які ён вызваляў у 1944-м, стаў для рускага хлопца з Браншчыны на ўсё жыццё самым дарагім, родным і любімым.**









**НА ЗДЫМКАХ: Р. АРЫКА ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны ля карты аперацыі «Баграціён»; палкоўнік Р. АРЫКА (злева) у дні падрыхтоўкі аперацыі «Баграціён»; такім быў куток цяперашняга Ленінскага праспекта і вуліцы Леніна ў ліпені 1944 года; на Ленінскім праспекце праз 45 гадоў пасля вайны.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ і В. ЛУПЕЙКІ.**

# КАЛІ КРОПЛЯ СТАНЕЦЦА ПЛЫННЮ?

Як мы паведамлялі раней, апостальскі візітатар для беларусаў-каталікаў на Захадзе Аляксандр Надсон звярнуўся да ўсіх суайчыннікаў, рассеяных па замежжы, з заклікам не пакінуць у бядзе свой народ—дапамагчы ахвярам чарнобыльскай аварыі. Гэты заклік быў зроблены пасля таго, як некалькі грамадскіх арганізацый рэспублікі, у тым ліку і Беларускае таварыства «Радзіма», звярнуліся да ўсіх выхадцаў з Беларусі, якія жывуць у розных краінах свету, з просьбай дапамагчы сваёй Бацькаўшчыне справіцца з бядой. Ад многіх суайчыннікаў ужо ідуць дабрачынныя ахвяраванні: арганізацыі, суполкі і паасобныя людзі пераводзяць грошы на чарнобыльскі фонд, прысылаюць і прывозяць аднаразовыя шпрыцы, прэпараты і вітаміны. Падкрэслім: добраахвотныя ахвяраванні ідуць ад розных людзей—веруючых і атэістаў, ад тых, хто з сімпатыяй ставіцца да Савецкай улады, і тых, хто не падзяляе нашых поглядаў. Трагедыя народа вылучыла на пярэдні план галоўнае: мы—людзі і можам аб'яднаць намаганні дзеля высокай мэты—ратавання жыцця.

На пачатку сакавіка айцец Аляксандр прывёз у Мінск першы дарунак ад зарубежных беларусаў — 3 тысячы аднаразовых шпрыцаў, прыборы для пералівання крыві, вітаміны. Усё гэта было перададзена дзіцячай бальніцы ў Мінску і анкалагічнаму дыспансеру ў Бараўлянах.

— Я разумею, — сказаў Аляксандр Надсон, — што гэта пакуль кропля ў моры, бо я тут пабачыў памеры няшчасця. Я бачыў трагічныя выпадкі. Прыходзіць маці з дзіцяткам на руках і просіць: «Дапамажыце, бо дзіця мае смяртэльна хворае! Ці можна за граніцу вывезці лячыць?» Я разумею трагедыю яе душы: маладая маці, гэта першае яе дзіця. Сэрца крывёй абліваецца. І хочацца неяк дапамагчы.

На заклік А. Надсона, які стварыў у Лондане Камітэт дапамогі беларускім ахвярам радыяцыі, пайшлі ахвяраванні не толькі ад беларусаў, якія жывуць у Англіі, але таксама і з іншых краін, найперш са Злучаных Штатаў Амерыкі.

— Мы зрабілі заклік у трох мовах—беларускай, англійскай і французскай. І людзі адгукнуліся. Ведаеце, ёсць шмат добрай волі, шмат патрыятычнага ў асяроддзі нашых беларусаў. Мяне часта пытаюцца, на чым мы маем заашчадзіць, каб сабраць больш сродкаў. Вось я і заклікаў сваю паству, каб 6 красавіка, у пятніцу перад Вялікаднем, кожная сям'я пасціла, а зэканомленыя на харчаванні грошы перадаць у фонд Чарнобыля.

А. Надсон вельмі перakанаўча гаварыў, каб мы падбалі пра папулярную інфармацыю не толькі для беларусаў на Захадзе, але і для англічан, французаў пра тое, што такое Чарнобыль на Беларусі. Адна справа — голыя заклікі, зусім іншая — скажам, відэафільм, які паказалі яму ў фондзе «Дзеці Чарнобыля». Відэафільм пра дзяцей, якія сталі ахвярамі радыяцыі. І, відаць, Таварыству Чырвонага Крыжа, Беларускаму таварыству «Радзіма», іншым грамадскім арганізацыям трэба як найхутчэй даць такую інфармацыю тым людзям на Захадзе, якія хочуць хоць нешта карыснае зрабіць для Радзімы.

— Я цяпер лепш ведаю, што трэба везці да вас,—сказаў А. Надсон. — Папрасіў, каб мне далі спіс з дакладным апісаннем таго, што патрэбна. Мы будзем шукаць і даставаць. Шпрыцы лягчэй набыць, але мне казалі, што тут недахоп спецыяльнай апаратуры. Пытаўся, ці магчыма паслаць хоць некалькі лекараў на стажыроўку ў шпіталях, якія займаюцца трансплантацыяй касцявога мозгу.

Ужо ведаючы, якія тут абставіны, я пасля вяртання ў Англію маю намер выступіць з новым заклікам да ўсіх беларусаў і ўсіх людзей добрай волі. Я так разумею, што дапамога ахвярам радыяцыі — гэта справа не аднаго года. Чарнобыльская трагедыя яшчэ доўга будзе ценем вісець над Беларуссю, над нашым народам. Бачу, што тут ёсць многа праблем, але найгалоўнейшая — ратаваць жыццё.

Добрыя словы і добрыя намеры. Хацелася б толькі, каб гэтая першая кропля дапамогі хутчэй сталася шырокай плынню. Вядома, бяду нашу не адолець за адзін год, але калі менавіта ў гэты год мы атрымаем такую колькасць лекаў, прэпаратаў, медыцынскіх сістэм, якая выратуе тысячы людзей на пачатку захворвання, будзе большая ўпэўненасць, што наш народ яшчэ мае будучыню.

Беларусь чакае дапамогі і ад суайчыннікаў, і ад усіх людзей ва ўсім свеце.

**В. МАЦКЕВІЧ.**

**ШУКАЦЬ КАНТАКТАЎ**

## ПРАПАНУЮ ПІСАЦЬ МНЕ НА АДРАС...

Штодзень рэдакцыйная пошта «Голасу Радзімы» прыносіць пісьмы ад нашых суайчыннікаў з розных куткоў Савецкага Саюза і свету. Безумоўна, яны адрозніваюцца па зместу, танальнасці, але маюць і шмат агульнага. Сёння мы часта атрымліваем допісы, як і звароты ў вуснай форме, падобныя на вось гэты, дасланы ў рэдакцыю Паўлам Саўчанкам з Літвы.

Пачынае ён адразу з галоўнага—пабуджальных матываў: «Мне вельмі хацелася б атрымаць адрас суайчынніка-беларуса, які жыве за мяжой, і мець з ім перапіску. Мяне цікавіць яго жыццё, тое, як ён захоўвае традыцыі нашага народа, яго мову. Я бачу, якія ажыўленыя зараз узаемаадносіны паміж літоўцамі і іх суайчыннікамі за мяжой і як яны спрыяльна ўплываюць на развіццё культуры, на ўзаемаўзбагачэнне людзей. Хацелася б, каб і Беларусь праяўляла большую цікавасць да нашых землякоў, да іх жыцця, мараў, праблем».

Павел Пятровіч звяртаецца да нас з просьбай: «Было б вельмі пажадана, каб вы змясцілі мой адрас у газеце ці далі мне адрас беларускай сям'і, што жыве за мяжою. Я мару ў будучыні (але гэта толькі мары) пабываць за мяжой у якой-небудзь беларускай суполцы».

У постскрыптуме аўтар дасылае будучаму сябру-земляку сваю «візітную картку»: «Я настаўнік хіміі і біялогіі, жыву ў Вільні, а радзіма мая — Віцебшчына. Мне 51 год, маю сям'ю, жонка — настаўніца, двое дзяцей — школьнікі. Прапаную пісаць мне на адрас: СССР, 232001, г. Вильнюс, ул. Иогайлос, д. 11, кв. 3, Савченко П. П».

І гэта цудоўна, што людзі аднаго роду-племені адчуваюць духоўную патрэбу ў пазнанні сваіх далёкіх братоў, у імкненні да лучнасці, нягледзячы на геаграфічную аддаленасць, дзяржаўныя граніцы, розныя светапогляды. Сведчыць гэта і аб дэмакратычных зрухах і пераменах у нашым грамадстве. Урэшце гэта натуральна. Аднак рэдакцыя апынулася ў даволі складаным і далікатным становішчы. Мы і раней думалі, як быць? Сапраўды, чый адрас даваць, скажам, таму ж віленскаму карэспандэнту? Зыходзячы з якога крытэрыя? І ці маем мы юрыдычнае права рабіць гэта без дазволу адвольна выбранай намі асобы? Адметнасць ліста П. Саўчанкі ў тым, што ён падказаў нам выйсце: надрукаваць яго пісьмо. Дзякуй, Павел Пятровіч! Хай замежны чытач сам вырашае, паціснуць працягнутую вамі руку сяброўства ці не. А заадно і вызначае лёс нашай новай рубрыкі, вынесенай пакуль што ў загаловак, будзе яна мімалётным эпізодам ці зойме сваё сталае месца. Па шчырасці кажучы, мы не ў захапленні ад яе назвы. І таму вельмі просім сяброў і чытачоў газеты дапамагчы нам адолець і гэтую перашкоду сваімі парадамі. Адным словам, чакаем лісты з новымі запрашэннямі да знаёмства, «візіткамі», пажаданнямі, водгаласамі.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

## З БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ

**Бібліятэчку фотаальбомаў, якія расказваюць аб жыцці і творчасці вядомых беларускіх пісьменнікаў, выпусціла выдавецтва «Беларусь». У ёй прадстаўлены Іван Мележ і Васіль Быкаў, Аркадзь Куляшоў і Алесь Адамовіч, Пятрусь Броўка і Максім Танк... Чарговы альбом бліжэй знаёміць чытача з патрыярхам нацыянальнай літаратуры, вядомым вучоным Кандратам Крапівой.**

**Складальнікам і аўтарам тэксту Сцяпанам Лаўшуком вытрыманы традыцыйны для гэтай серыі прынцып. У артыкуле «Вялікі працаўнік» (тэкст пададзены па-беларуску і ў перакладзе на рускую мову) згадваюцца найбольш значныя эпізоды з біяграфіі К. Крапівы, гаворыцца пра яго шматгранную мастакоўскую і навуковую дзейнасць, падкрэсліваецца месца творчасці байкапісца і драматурга ў кантэксце савецкай літаратуры.**

**Змешчаны выказванні пра творчасць К. Крапівы яго паплечнікаў. У прыватнасці, эпіграфам да артыкула ўзяты словы Янкі Брыля: «Ёсць людзі, якія маюць як быццам не адно жыццё, не адну біяграфію, — жыццё іх упрыгожвае многія тысячы жыццяў, біяграфій! Дзелячыся з мноствам людзей багаццем сваёй душы, чалавек тады не бяднее, а наадварот — узбагачаецца сілай народа, яго ўдзячнасцю і любоўю. Такім чалавекам — сапраўдным сынам народа — мы называем і Кандрата Крапіву».**

**Прыводзяцца асобныя творы пісьменніка і, зразумела, багаты ілюстрацыйны матэрыял. Каляровыя і чорна-белыя здымкі, выкананыя У. Крукам, В. Харчанкам, А. Дзмітрыевым, узнаўляюць родныя К. Крапіве мясціны, знаёмяць са спектаклямі, пастаўленымі па яго п'есах, паказваюць пісьменніка ў час сустрэч з калегамі. Адбываецца сапраўднае падарожжа сцяжынамі, якімі прайшоў народны пісьменнік Беларусі Кандрат Крапіва.**

**А. КУНЦЭВІЧ.**



## спорт

ФЕХТАВАННЕ. У Парыжы мацнейшыя рапірысты Еўропы разыгралі ўзнагароды двух прэстыжных турніраў. Спачатку спартсмены спрачаліся за Кубак Ромеля. Фінал аказаўся ўдалым для савецкіх фехтавальшчыкаў. Першае месца заняў масквіч Дзмітрый Шаўчэнка, другое — мінчанін Аляксандр Раманькоў.

А каманда, якая выступала пад флагам мінскага «Дынама», выйграла Кубак Еўропы. Акрамя А. Раманькова, тут вызначыўся і брэстаўчанін Б. Карэцкі.

ДЗЮДО. Польскі горад Ольштын прымаў удзельнікаў міжнароднага турніру сярод жанчын. Упершыню сярод прызёраў такіх буйных спаборніцтваў ёсць і беларускія спартсменкі: С. Селіханава (сярэбраны медаль), Т. Масквіна і І. Емяльянава (бронзавыя).

БІЯТЛОН. Стартамі юных у Фін[illegible]дыі завяршылася першы[illegible] свету. Найбольшая колькасць узнагарод дасталася зборнай СССР. Віцябчанін В. Сашурын атрымаў «серабро» ў эстафеце 4×7,5 кіламетра, а мінчанка Н. Турло заняла трэцяе месца ў кам[illegible]днай гонцы на 10 кіламе[illegible]

ШАХМАТЫ. Каманда юных шахматыстак мінскага Палаца піянераў і школьнікаў выйграла міжнародны матч-турнір у Сафіі.

ЛЁГКАЯ АТЛЕТЫКА. У Іякагаме адбыўся матч лёгкаатлетаў Японіі, ЗША і СССР. Галоўнай нечаканасцю спаборніцтваў стала перамога Ігара Казанава (некалі выступаў за каман[illegible] БССР) над рэкардсме[illegible] свету ў бар'ерным бегу на 60 метраў амерыканцам Р. Кінгдомам.

Мінчанін І. Лапшын заняў другое месца ў трайным скачку, а яго зямляк А. Суднік фінішаваў трэцім у б[illegible] на 800 метраў.

**«Начныя жывёлы» — так называецца выстаўка, што адкрылася ў Доме прыроды ў Траецкім прадмесці. Арганізавана яна супрацоўнікамі заасада Мінскага аўтазавода і лабараторыі «Экацэнтр» Беларускага філіяла Усесаюзнага цэнтра «Сігнум». Наведвальнікі змогуць убачыць тут каля 30 відаў жывёл, сярод якіх такія рэдкія, як паўднёваамерыканскія грызуны дэгу і шыншыла, продак малпаў—тупая з паўднёва-ўсходняй Азіі, дзікабраз, скарпіён.**

**НА ЗДЫМКАХ: на выстаўцы. Экскурсію праводзіць супрацоўнік лабараторыі «Экацэнтр» Аляксандр ЧАГАДАЕЎ; чырванахвостыя пясчанкі; сава вушастая.**

**Фота Ю. ПАЎЛАВА.**







## РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ

# ПОДЫХ КРАСАВІКА

Прыход красавіка заўсёды чаканы і цудоўны. Уся прырода ажывае, цягнецца да святла, паветра напаўняецца непаўторным водарам пупышак і першых веснавых кветак. І калі ў сакавіку вясна рабіла яшчэ толькі свае першыя нясмелыя крокі, не даваючы першаму цяплу, то ў красавіку яна ўжо ў поўную сілу, лёгка і ўпэўнена крочыць па зямлі. Яе прысутнасць адчуваецца ва ўсім: і ў ласкавым подыху цёплага веснавога паветра, і ў залівістай песні жаўрука, і ў жоўценькіх галоўках кветак падбелу.

Але ў лесе вясна адчуваецца па-асобаму. Лясныя жыхары рэзка змянілі свае паводзіны... Прачнуўся і вылез з глыбокай нары барсук, выбраўся з бярлогі мядзведзь, ажылі краты і земляройкі. Вярнуліся з цёплых краёў прыгожыя лясныя кулікі — вальдшнэпы, і цяпер, дурэючы, носяцца яны над лесам адзін за адным. «Цві-цві... Хорр... Хорр... Хорр...», — раз-пораз чуюцца іх нягучныя пазыўныя. Пачынаецца цяга — перыяд веснавых шлюбных гульняў гэтых птушак.

А на шырокіх лясных палянах разгараюцца цецеруковыя такавішчы. Чорныя, са сталёвым адлівам у пер'ях і ярка-чырвоным надзюбкам і брывом, у бескампрамісных жорсткіх сутычках высвятляюць пеўнікасачы свае ўзаемаадносіны і права на далейшы працяг роду свайго. Яны забаўна кружаць па палянах, цягнуць па зямлі шырока распушчаныя крылы і, гучна чуфікаючы, налятаюць адзін на аднаго, стараючыся збіць свайго праціўніка. А з-за кустоўназіраюць за дзіўным відовішчам сціплыя шэранькія цяцёркі. Гэта з-за іх і наладзілі лясны спектакль цецерукі-самцы, стараюцца прадэманстраваць сваю сілу і моц, каб спадабацца капрызнай самачцы.

Зазелянелі першай лістотай кусцікі чаромхі і дзікіх парэчак. У бярозы ж яшчэ ў самым разгары перыяд руху сокаў. А дзяцел (вось жа хітрун!) лепш за ўсіх ведае пра гэта — выдзеўб на яе кары цэлае колца з маленькіх глыбокіх дзірачак і злізвае цяпер з іх сок сваім доўгім шурпатым языком. А сок такі цягучы, салодкі, самы смачны ласунак.

Красавік — гэта і час першых веснавых грыбоў. На ўзлесках старых гаёў, высечках і гарах сярод жухлай травы ды чарнічніку і брусцнічніку, што зазелянелі, і яшчэ каля вялікіх гнілых пнёў, там, дзе зямля найбольш добра праграецца сонцам, высоўваюцца з яе разломаў канічныя, з глыбокімі баразёнкамі карычневыя галоўкі смаржкоў і страчкоў. У смаржкоў галоўкі больш высокія, у форме курынага яйка, павернутага носікам уверх, а звілістыя палоскі на іх пераплятаюцца ў выглядзе пчаліных сотаў. У страчкоў жа галоўкі няправільнай акруглай формы са складкамі самага рознага характару, якія нагадваюць паверхню грэцкага арэха.

Прыкметныя змяненні адбываюцца ў гэты час і ў падводным царстве. Рыбы выходзяць са сваіх сховішчаў у глыбокіх участках вадаёмаў і пачынаюць інтэнсіўна харчавацца. Гэтаму садзейнічае адначасовае павышэнне жыццёвай актыўнасці водных насякомых, рост і павелічэнне масы рознай воднай расліннасці. Працягваецца нераст шчупака. Заварушыў халоднай слізкай цінай сом, які прачнуўся ў ямцы. Многія віды рыб выходзяць на мелкаводдзе, каб паклапаціцца аб будучым патомстве.

З кожным днём красавіцкае сонца грэе мацней. Вось ужо і сады гатовы зацвісці. Паглядзіш на ўсю пакрытую бела-ружовымі густымі кветкамі прыгожую яблыньку, і міжволі здасца, што гэта лёгкая хмарка затрымалася ў яе галінах і не збіраецца ляцець далей, быццам бы рашыўшы адпачыць пасля дальняй дарогі. І над усім гэтым хараством лятаюць пчолы, звіняць першыя камарыкі, нават матылёк - крапіўніца, ужо не баючыся начных халадоў, лёгкім ценем носіцца ў прагрэтым паветры. Па зямлі крочыць вясна, красавік цвіце, несучы людзям радасць абнаўлення прыроды.

**В. СТОМА,**
**біёлаг.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

Шукаецца **ДРЫЗГО Марыя Іванаўна**, якая нарадзілася прыкладна ў 1903 годзе ў Літве, у вёсцы Кермілішкі Рокішскага раёна. Адтуль яна выехала ў 30-я гады ў Аргенціну. Вядома, што яна вяла перапіску са сваякамі ў Літве.

Яе шукае пляменніца, дачка старэйшага брата Дрызго Уладзіміра Іванавіча, **ВОЛКАВА (Дрызго) Антаніна Уладзіміраўна.**

Просьба да ўсіх, хто можа дапамагчы ў пошуку, паведаміць у рэдакцыю або па адрасу:

**220113, БССР, г. Мінск, Лагойскі тракт, дом 1, кв. 221. ВОЛКАВАЙ Антаніне Уладзіміраўне.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854. Зак. № 397